*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 17(333) | 1-15 СНЕЖНЯ 1997 г.

## Зачынілі “Свабоду”

**24 лістапада зачынена газета “Свабода”. Вышэйшы гаспадарчы суд на працягу 15 хвіліннага паседжання прызнаў яе вінаватай ва ўсім, у чым толькі можна быць вінаватым.**

**“Свабода” даўно муляла вока ўладам, бо яна была вольнай і незалежнай газетай з моцнай інфармацыйнай базай. Яе зачынілі за тое, што яна пісала праўду ў Краіне Хлусні.**

**Заснаваная ў 1902 годзе газета пабачыла чытача толькі ў 1990 годзе, праз 88 гадоў.**

**Заснаваная пры цары, газета тады натуральна не магла выйсці. Не магла выйсці яна пры Польшчы і Саветах. І вось яна зачынена ў “сувярэннай, незалежнай і вольнай” Беларусі. Самая папулярная, самая інфармацыйная, самая аператыўная і самая праўдзівая газета.**

**Мы не баімся сёння пра гэта пісаць, бо ведаем, што за “Свабодай” будуць зачынены іншыя апазіцыйныя ўладам газеты. Але мы ведаем, таксама, што сёння на Беларусі няма сілы, якая магла б зачыніць увесь народ. Затыкаць рот незалежным сродкам масавай інфармацыі — гэта ўсяроўна, што затыкаць засцерагальны клапан у паравым катле. Выбух непазбежны.**

*АПОШНІ НУМАР ГАЗЕТЫ “СВАБОДА”*



СВАБОДА

уд выканаў волю прэзідэнта
СВАБОДУ забаранілі

Мінуў роўна год

Журналіст
...ае
...травіў
«клетку»

Ірыну Халіп
абвінавачваюць
у хуліганстве

«Пусты мяшок
заўсёды валіцца»

Экзамен у турме

*Генадзю Бураўкіну, Алегу Трусаву*

*Хлопцы-пабрацімы!*

*Адною кладачкай праз “гразь каронную” няхай паболее. Пакутніца ж наша найхутчэй да цвердзі праб'ецца. Імёны ахвярадаўцаў, згодна ліста просьба абнародаваць у “Нашым Слове”, — пэўна знойдуцца наступнікі-дабрачыннікі і ў Беларусі, і сярод дыяспары (не выключаючы маскоўскую). Не заклікаем, проста верым.*

*Жывем, будзем жыць!*

*Костусь Атрашэўскі.*

*3 лістапада 1997 г.*
*Масква.*

## ПАДМОГА

**беларусаў Масквы Таварыству Беларускае Мовы імя Фр. Скарыны – дзеля ўзнаўлення газеты “НАША СЛОВА”** *(у расейскіх рублях):*

| | |
|---|---|
| **Астроўская** | |
| Софія Іванаўна | 20.000 |
| **Атрашэўскі** | |
| Костусь Аляксееў | 50.000 |
| **Бабарэка** | |
| Алеся Адамаўна | 50.000 |
| **Бурсаў** | |
| Іван Цярэшкавіч | 10.000 |
| **Ванькові́ч** | |
| Рэгіна Аўдакімаўна | 50.000 |
| **Гарэцкі** | |
| Усяслаў Гаўрылавіч | 100.000 |
| **Гарэцкая** | |
| Лідзія Іванаўна | 50.000 |
| **Гарэцкі** | |
| Кірыла Усяслававіч | 50.000 |
| **Грамыка** | |
| Барыс Міхайлавіч | 160.000 |
| **Грамыка** | |
| Вольга Барысаўна | 20.000 |
| **Грамыка** | |
| Кацярына Барысаўна | 20.000 |
| **Дражнюк** | |
| Алесь Аляксандравіч | 50.000 |
| **Елахоўскі** | |
| Дзяніс Уладзіміравіч | 15.000 |
| **Каўко** | |
| Святлана Аляксееўна | 20.000 |
| **Каўко** | |
| Андрэй Аляксеевіч | 20.000 |
| **Курыс** | |
| Алесь Пятровіч | 10.000 |
| **Паўлоўскі** | |
| Ігар Аляксандравіч | 50.000 |
| **Сабалеўскі** | |
| Антон Аляксандравіч | 50.000 |
| **Сабалеўская** | |
| Вольга Аляксандраўна | 15.000 |
| **Сабалеўскі** | |
| Антон Антонавіч | 25.000 |
| **Сабалеўская** | |
| Алена Антонапўна | 25.000 |
| **Улашчык** | |
| Аляксандр Мікалаевіч | 50.000 |
| **Харытончык** | |
| Антон Васільевіч | 50.000 |
| **Цагельнікаў** | |
| Лявон Сцяпанавіч | 05.000 |
| **Ціхановіч** | |
| Алесь Рыгоравіч | 10.000 |
| **Шкялёнак** | |
| Міхаіл Міхайлавіч | 100.000 |
| **Шчадрына** | |
| Валянціна Еіканораўна | 10.000 |
| **Шыраеў** | |
| Яўген Яўгенавіч | 50.000 |
| **Шырко** | |
| Ларыса Уладзіміраўга | 20.000 |
| **Аляксееў** | |
| Леанід Васільевіч доктар гіст.навук, рускі | 50.000 |

**——— УСЯГО ———**
**1 МЛН. 205 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ.**

*Шаноўныя суайчыннікі з Масквы і шаноўныя расейскія сябры ТБМ*

*Шчыра дзякуем вам за падмогу нашаму таварыству у нялёгкі для нас час. Запаўняем вас, што вашая ахвярнасць паслужыць на карысць Беларусі.*

***Генадзь БУРАЎКІН, старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны.***
***Сакратарыят ТБМ.***

## Выгналі на вуліцу

Больш за пяць год Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны праводзіла свае паседжанні са згоды дэкана журфака БДУ, які сам размяшчаўся ў корпусе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па вул. Свярдлова, 7. Цяпер журфак пакінуў гэты корпус. У мінулым годзе кіраўніцтва дэканата эканамічнага ўніверсітэта пачало забарону праводзіць паседжанні Рады. І калі мы сабраліся на першае паседжанне пасля вакацыяў, ветліва зайшла вахцёр корпуса і саромячыся папрасіла разысціся і больш не збірацца тут — “так прыказала кіраўніцтва”, “вас ня любяць”. Яна праявіла тактоўнасць, інтэлігентнасць і ўважыла нашу просьбу закончыць паседжанне. Дзе правесці чарговае паседжанне рады мы не ведаем. Кіраўніцтва сталічных арганізацыяў, культурна-асветніцкіх установ адмаўляюць у прытулку, а праводзіць паседжанні на кватэры ў сяброў і прыхільнікаў беларускай мовы (такія прапановы ёсць) таксама небяспечна: могуць прыпісаць “варожую беларускамоўную дзейнасць” уладальнікам кватэр.

Вось і Матчына Мова! Цябе зняважылі, прынізілі, але не задушаць. Ты будзеш жыць! Будзем помніць і дзейнічаць па запавету вялікага Вацлава Ластоўскага: “Мы, беларусы, як сіла народная, можам і павінны вымагаць, каб інтэлігенцыя, якой бы нацыі яна сама ні была, шанавала бы нас, як людзей і пашану гэту выказвала, шануючы нашу мову”.

Даведка: у складзе Рады два пісьменнікі, прафесары, два загадчыкз кафедрамі, вядучыя навукоўцы нацыянальнай акадэміі навук, нацыянальнага інстытута адукацыі, ветэраны вайны і працы, выкладчыкі ўніверсітэтаў, рабочыя, кіраўнікі культурна-асветніцкіх грамадскіх арганізацыяў.

Ва ўмовах этнацыду супраць беларускага этнасу Рада будзе працягваць выконваць статутныя абавязкі, будзе бараніць беларускую мову ў Беларусі — аснову дзяржаўнасці, незалежнасці, нацыянальнай культуры, дэмакратыі, дабрабыту.

***Прафесар***
***Мікола САВІЦКІ.***

## КОЖНАМУ БЕЛАРУСУ – БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ!

**падпісныя звесткі беларускіх перыядычных выданняў на I-II кв. 1998 г.**

*Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны заклікае кожнага беларуса падтрымаць беларускамоўную прэсу.*

**ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ:**

| Індэкс | Назва | Перыядычнасць | Кошт на 3 месяцы | Кошт на 6 месяцаў |
|---|---|---|---|---|
| **Газеты:** | | | | |
| 63267 | Белавежская пушча (экалогія) | 1/2м | 16.000 | 24.000 |
| 63854 | Голас Радзімы | 1/т | 18.000 | 36.000 |
| 63850 | Звязда | 5/т | 72.000 | 144.000 |
| 63875 | Культура | 1/т | 36.000 | 72.000 |
| 63856 | Літаратура і мастацтва | 1/т | 45.000 | 90.000 |
| 63125 | Наша Ніва | 1/т | 54.000 | 108.000 |
| 63865 | Наша Слова | 1/т | 36.000 | 72.000 |
| 63124 | Пагоня | 3/т | 60.000 | 120.000 |
| **Часопісы:** | | | | |
| 74820 | Беларусь | 6/пг | 60.000 | 120.000 |
| 75021 | Беларуская мінуўшчына | 3/пг | 60.000 | 90.000 |
| 74830 | Беларускі гістарычны часопіс | 2/пг | 32.000 | 64.000 |
| | Беларускі гістарычны агляд | тэл. для даведак 278-78-98 | | |
| 74822 | Бярозка | 6/пг | 36.000 | 72.000 |
| 74844 | Вожык | 6/пг | 30.000 | 60.000 |
| 74845 | Вясёлка | 6/пг | 24.000 | 48.000 |
| 74957 | Маладосць | 6/пг | 60.000 | 120.000 |
| 74958 | Мастацтва | 6/пг | 150.000 | 300.000 |
| 74985 | Полымя | 6/пг | 60.000 | 120.000 |
| 74823 | Роднае слова | 6/пг | 51.000 | 102.000 |
| 74926 | Родная прырода | 3/пг | 30.000 | 45.000 |
| 74982 | Спадчына | 3/пг | 80.000 | 120.000 |
| **Двухмоўныя дэмакратычныя газеты:** | | | | |
| 63222 | Народная Воля | 5/т | 87.000 | 174.000 |

***Шаноўныя сябры “Нашага слова”.***
***Ізноў можна падпісацца на нашую газету. Волей абставін у каталогу на 1998 год “Наша слова” знайходзіцца ў раздзеле “Абласныя газеты” старонка 18. Падпісны індэкс 63865.***

# ПАКРЫЎДЖАНЫЯ ЗАСТАЛІСЯ

Прачытаўшы ў "НС" № 1(15) надрукаваны ўрывак з даклада міністра адукацыі на першым з'ездзе настаўнікаў Беларусі, я зрабіў наступныя высновы. В. І. Стражаў пераканаўча даказаў недахопы беларусізацыі школы ў пачатку 90-х гадоў. Яе праграма была непадрыхтаванай, паспешлівай, насіла прымусовы характар, супярэчыла канстытуцыйным правам грамадзян, дапускала адміністраванне і выклікала справядлівыя нараканні бацькоўскай грамадскасці. Вядома, такое становішча выпраўлена па ініцыятыве прэзідэнта на рэферэндуме 1995 г., калі народ ухваліў яго прапанову даць бацькам права выбіраць мову навучання сваіх дзяцей.

У выніку атрымалася тое самае, толькі наадварот. У першым выпадку пакрыўджанымі былі бацькі — рускія, дзяцей якіх прымушалі вучыцца па-беларуску. Праўда, гэта было справядліва, бо ў Беларускай дзяржаве школы і павінны быць такімі, тым больш што і мова дзяржаўная была тады адна — беларуская. Спатрэбіўся другі прэзідэнцкі рэферэндум у 1996 годзе, каб прыбраць і гэтую перашкоду. Цяпер пакрыўджанні аказаліся бацькі-беларусы, бо на іх пачалі ціснуць, угаворваць, агітаваць пераходзіць на рускую мову. Калі ў класе набіралася палова ці больш жадаючых вучыць дзяцей на гэтай мове, тады ў другой паловы і не пыталі згоды, бо калі ў школе з'явіліся класы на дзвюх мовах, то і адміністрацыя была зацікаўлена перайсці на адну ды больш прэстыжную рускую. У выніку пайшло хуткае скарачэнне беларускіх школ і класаў. Аб гэтым красамоўна сведчаць лічбы з даклада В. І. Стражава. У 1996-97 нав. годзе ў рэспубліцы навучалася на рускай мове 67,1% дзяцей, а на беларускай 32,9%. Канечне, многія бацькі-беларусы лёгка перамянілі мову навучання сваіх дзяцей, бо і самі ў нядаўнім мінулым вучыліся па-руску. Другія не хацелі адмаўляцца ад сваёй мовы, упарціліся, прыйшлося хадзіць па службовых кабінетах са скаргамі, пікетаваць. Стварылася грамадская арганізацыя — ТБШ у абарону роднай мовы, як некалі ў Заходняй Беларусі пры паляках. Жыхар Гродна Юры Мацко нават судзіўся з службоўцамі за правы вучыцца сваёй дачцэ на сваёй мове, але безвынікова. Толькі здзіўляе, што пра ўсё гэта дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не паведамлялі, мы даведаліся з незалежных крыніц.

Як бачым, узніклі новыя канстытуцыйныя парушэнні правоў грамадзян, дапускаецца ўзмоцненае адміністраванне. Пакрыўджаных, думаю, стала больш. Але на гэта цяпер ніхто не звяртае ўвагі. Вось я не разумею, які гэта "дабраахвотны і свядомы выбар", аб якім гаворыць міністр. Я гэты працэс іначай, як пераход ад беларусізацыі школы да русіфікацыі, назваць не магу. Узнікае пытанне, каму ён патрэбен, хто ў ім зацікаўлены? Але дакладна вядома, што гэта не на карысць Беларусі і супярэчыць яе нацыянальнаму адраджэнню.

*Міхась ПУЗІНОЎСКІ,*
*ветэран педагагічнай працы,*
*г. Ашмяны.*

# "РОДНАМУ СЛОВУ ГУЧАЦЬ ВЕЧНА"

## *Гутарка з настаўніцай СШ № 2 г. Масты Т. І. Навагродскай*

**Неяк у аддзеле адукацыі райвыканкама Данута Антонаўна Аўтуховіч параіла: пазнаёмцеся з настаўніцай другой гарадской школы Тамарай Іванаўнай Навагродскай. Маладая, але таленавітая настаўніца, працуе творча, любіць свой прадмет, яе паважаюць і ў калектыве, і вучні.**

**Паверце, пасля гутаркі з ёй у мяне засталося самае лепшаае ўражанне. Сапраўды, гэта настаўніца, якая ўсю сябе аддае працы. Паспрабую перадаць гутарку з Т. І. НАВАГРОДСКАЙ.**

**— Тамара Іванаўна, некалькі слоў аб сабе.**

— Закончыла філалагічны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта. У школе падабалася літаратура, бо былі добрыя настаўнікі. Па спецыяльнасці я настаўніца рускай і беларускай моваў і літаратур. Але ў школе аддаю перавагу роднай філалогіі, бо хочацца, каб вучні палюбілі і з цікавасцю вывучылі кроўную мову і літаратуру.

Пасля заканчэння вучобы ўвесь час выкладаю ў другой школе беларускую мову і літаратуру. Сёлета ў мяне пятыя і восьмыя класы.

**— Скажыце, калі ласка, за што вы любіце родную мову і літаратуру?**

— Мова — душа народа, літаратура — жыццё народа. Наша родная літаратура, мне здаецца, найбольш поўна адлюстроўвае жыццё нашага народа. Прачытаеш любы праграмны твор — і адкрыеш у ім новыя старонкі гісторыі, жыцця нашых людзей.

Вось толькі шкада, што зноў бацькі аддаюць перавагу рускамоўным класам. вядома, шкада, але добра, што на родную мову і літаратуру застаецца ранейшая колькасць гадзін. А вучні любяць мову прадзедаў, добра размаўляюць на ёй. Гэта таксама радуе.

**— Тамара Іванаўна, урок ёсць урок. А вось якую ўвагу вы надаеце пазакласным мерапрыемствам?**

— Сапраўды, як кажуць, на ўроку не вельмі разгонішся, таму працягам урока лічу пазакласныя і пазашкольныя мерапрыемствы. У нас цяжкавата іх праводзіць, бо загружана школа. Але стараюся юбілейныя даты ці святы адзначаць у класе. Напрыклад, у дні свята беларускай пісьменнасці і друку арганізоўваем свята і ў класе. Стараюся з дзецьмі наведаць Гародню, там бываем у лялечным тэатры, літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

А яшчэ стараюся развіваць творчыя здольнасці вучняў. Пішам вершы, казкі, чытаем іх у класе.

**— Як вядома, вы ўдзельнічалі ў конкурсе "Настаўнік года-97". Што вас падштурхнула да гэтага? Што вам даў удзел у такім адказным мерапрыемстве?**

— Шчыра кажучы, сама не асмельвалася. Дырэкцыя прапанавала, Данута Антонаўна Аўтуховіч з аддзела адукацыі гутарыла са мною. Разумела, што гэта адказна. Многа было хваляванняў. Урок праводзіла ў адным з пятых класаў СШ № 5 гор. Масты. Тэма: "Правапіс складаных слоў".

І тое, што ўдзельнічала ў конкурсе, не пашкадавала. Вядома, многа было хваляванняў, але ўбачыла і сустрэлася з цікавымі настаўнікамі. Конкурс даў штуршок да творчасці. Нават нейкім новым бокам адкрылася наша настаўніца Наталля Уладзіміраўна Ганцэвіч. Так што шчыра скажу настаўнікам: не бойцеся ўдзельнічаць у конкурсах, яны даюць многае.

**— Ідзе новы навучальны год. Вашы мары і жаданні?**

— Хочацца працаваць творча, шукаць новыя формы правядзення ўрокаў, каб дзеці любілі родную мову і літаратуру. Хочацца праводзіць інтэгрыраваныя ўрокі. Вось чаму б не правесці адначасова ўрок літаратуры і гісторыі. Колькі ёсць сувязяў літаратурных твораў з гісторыяў?! Напрыклад, правесці ўрок у форме літаратурнай кампазіцыі. Планаў многа. А жаданне адно: каб вучні любілі родную мову і літаратуру, каб гэтую любоў пранеслі праз усё сваё жыццё. Роднае слова павінна гучаць вечна. Мы, беларусы, павінны жыць з гонарам.

*Гутарыў А. САБАСЦЯН.*



**ПАВЕЛ СЦЯЦКО**

**доктар філалогіі, прафесар**

# НАТУРАЛЬНАСЦЬ ФОРМЫ І ДАКЛАДНАСЦЬ ДУМКІ

Штучная словаўтваральная мадэль "дзеепрыметнікі з суфіксамі -ач-, -яч-, -уч-, -юч-, -ем-, -ім-, накінутая нашай мове сумнавядомай пастановаю Саўнаркома БССР 1933 года, так і не прышчапілася, не прыжылася ў беларускай мове, не зважаючы на шматгадовы ідэалагічны і адміністрацыйны ціск расеізацыі. І гэта не выпадкова: сучасная беларуская літаратурная мова склалася на аснове жывой народнай гаворкі і не паспытала на сабе ўплыву старaславянскае мовы. У адрозненне ад яе расейская мова развівалася пад моцным старaславянскім уздзеяннем, таму дзеепрыметнікі з суфіксамі -ущ-, -ющ-, ащ-, -ящ-, -ем-, -им- займаюць у ёй досыць значнае месца, асабліва ў пісьмова-кніжных стылях.

Функцыю расейскамоўных дзеепрыметнікаў са згаданымі суфіксамі ў беларускай мове спраўна выконваюць прыметнікі з суфіксамі -н-, -льн-, а таксама некаторымі іншымі: -лів-, -ён-... Гэта выразна выявілі і ...міналагічныя слоўнікі 1991-1994 гг. Згаданую традыцыю працягвае і ўдала развівае нядаўна выдадзены "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" Станіслава Судніка і Сяржука Чыслава) Менск; Белфранс. 1997. – 250 с). У ім расейскамоўным лексемам з суфіксм -ем-, -им-, ом- адпавядаюць аддзеяслоўныя прыметнікі з фармантамі -н-, -льн-, -ён-, -лів-: обстреливаемый — абстрэльны, угрожаемый — пагражальны, пагрозлівы; преодолимый — пераадольны, управляемая ракетта — кіраваная ракета, занимаемый рубеж — займаны рубеж, пилотируемый — пілатаваны, ведомый самолёт — вядзёны самалёт і інш.

Апроч таго, ролю расейскамоўных дзеепрыметнікаў (прыметнікаў) з суфіксам -ем- натуральна выконваюць прыстаўкава-суфіксавыя вытворныя ад асновы назоўніка. Да яе далучаецца прыстаўка пад- і суфікс -н-: канвой — падканвойны (рас. конвоируемый), ахова — падахоўны (рас. охраняемый), абарона — падабаронны (рас. обороняемый). Такія прыметнікі досыць выразна і дакладна выяўляюць адпаведны сэнс: падахоўны — "хто знаходзіцца пад аховай", падабаронны — "хто пад абаронаай", падканвойны — "хто пад канвоем".

Прыстаўкава-суфіксавыя прыметнікі з конфіксам пад-... -н- ці пад-... -льн- могуць утварацца і ад асновы дзеяслова. Пры гэтым -н- далучаецца да скарочанае асновы (у інфінітыве адымаецца фіналь -ава- або -а-); а суфікс -льн- дадаецца да поўнае асновы ініфітыва: інспектаваць — падынспектны (рас. инспектируемый), інструктаваць — падыінструктоўны (рас. инструктируемый), ізалаяваць— падызаляваны (рас. изолируемый), вывучаць — падвывучальны (рас. изучаемый), вымяраць — падвымяральны (рас. измеряемый). Утварэнні з суфіксамі -н- і -льн- выкарыстоўваюцца і як сінонімы (дублеты): измеряемый — падвымяральны, падвымерны і падмерны (ад мераць).

Функцыю расейскамоўных субстантываваных лексемаў на -ущий, -ющий са значэннем суб'екта дзеяння могуць браць на сябе беларускія назоўнікі з фармантамі -ец, -енец. -овец: обороняющий — абаронец, які абараняе; атакующий — атаковец; ведущий — вядовец, допрашивающий — дапытовец, заряжающий — набоец. наступающий — наступовец. У гэтай ролі выступаюць таксама аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксамі -льнік -нік: изучающий — вывучальнік, обстреливающий — абстрэльвальнік, разводящий — разводнік, управляющий — кіроўнік.

Часам эквівалентамі расейскамоўных дзеепрыметнікавых утварэнняў выступаюць самыя базавыя назоўнікі ад якіх утварыліся дзеясловы і ад іх дзеепрыметнікі: инспектирующий — інспектар, які інспектуе; инструтикрующий — інструктар, які інструктуе.

Як бачым, дасведчаныя вайскоўцы падпалкоўнік Станіслаў Суднік і старшы лейтэнант Сяржук Чыслаў знайшлі адмысловыя беларускія адпаведнікі да расейскамоўных дзеепрыметнікавых утварэнняў з суфіксамі -ущ-, -ющ-, -ем-, -им-, -ом-. Гэтым самым яшчэ раз пацверджана думка-запавет Якуба Коласа, што перш чым пазычаць словы, трэба добра абмацаць кішэні сваёй памяці, прыслухацца да жывое гаворкі. І знойдзецца патрэбнае слова, якое раней ужывалася і стала недаравальна закінутым, выкараненым з памяці беларусаў расеізацыяй.

*ВЫДАННЕ ТБМ*

**Станіслаў Суднік**
**Сяржук Чыслаў**

**РАСЕЙСКА - БЕЛАРУСКІ**

**ВАЙСКОВЫ СЛОЎНІК**





BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE
КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
54 Mary Street, Barrie, Ont. Canada. Tel: (705) 725-8654

1 лістапада, 1997

**Урачыстаму Сходу Сьвяткавання Дня Герояў Беларусі на Беларусі.**

***Суродзічы Беларусы!***

*Ад імя сяброў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады і свайго асабіста вітаю вас з 77-мі ўгодкамі Слуцкага Збройнага Чыну, што быў вайной Беларускай Народнай Рэспублікі з Масквой за незалежнасць Беларусі*

*14 лістапада, 1920 году, 107 прадастаўнікоў ад гораду і 15 валасьцяў Случчыны сабраліся на З'езд Случчыны, не апанаванай яшчэ бальшавікамі. У працах Зьезду браў ўдзел камісар Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на Случчыне Паўла Жаўрыла, ён жа і прадстаўнік Рады БНР. З'езд выбірае Раду Случчыны ў складзе 17 чалавек на чале з Пракулевічам, вітае Раду БНР, пратэстуе супраць заняцця нашай Бацькаўшчыны чыжацкімі і самазванымі савецкімі ўладамі ды забавязваецца аддаць усе свае сілы на адбудову Бацькаўшчыны. Спешна пачынаецца фармаванне вайсковых збройных сілаў. У мястэчку Семежава фармуецца беларускі полк пад камандаваннем палкоўніка Гаўрыловіча, а ў Грозаве другі полк, якія і ўтварылі беларускую дывізію пад камандаваннем Анцыповіча, а пазней Сокал-Кутылоўскага.*

*27 лістапада 1920 году, слаба ўзброеныя і наспех сфармаваныя войскі БНР у складзе толькі аднае дывізіі, пайшлі ў няроўны бой. Дывізія стрымоўвала ціск усяе 16-е савецкае арміі. Тады былі кінутыя на фронт г. зв. інтэрнацыянальныя аддзелы, што складаліся пераважна з кітайцаў.*

*Гераічныя Случчакі — воіны рэгулярных збройных сілаў новаадроджанай Беларускай Народнай Рэспублікі, удзельнікі першай вайны з бальшавікамі, пайшлі на абарону сваіх земляў і свайго народнага ўраду, не маючы ніякай дапамогі ад вонкавага сьвету, ні собскага заплечча, бо ўвесь край захоплены ўжо быў ворагам, трымаліся цэлы месяц і толькі 28 снежня 1920 г. пад напорам пераважальных сілаў наезніка, вымушаны былі перайсці польскую мяжу.*

***"Тым, што паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына"*** *— словы вышытыя рукамі беларускіх сялянак на баявым сцягу Слуцкіх змагароў перадаюць адзін з найбольш яркіх момантаў слуцкай эпапеі — бязмежную ахвярнасць для беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі.*

*Змаганне за незалежнасць Беларусі прадаўжаецца. Наша Бацькаўшчына — Беларусь апынулася ў страшнай сітуацыі, калі знішчаецца ўсё беларускае — мова, культура, душа беларуса. У жахлівых абставінах адбываецца пад кіраўніцтвам БНФ змаганне за дэмакратыю, за выжыццё і вызваленне Беларусі.*

*І цяпер болей, як калі, мы павінны канцэнтраваць свае духовыя сілы і ахвярнасць, каб дапамагаць змагарам за жыццё, за вызваленне Беларусі.*

*Вось гэткай духовай сілы ў мудрасці жадаем мы вам і сабе.*

*Жыве Беларусь! Жыве Беларускі Народ у змаганні!*

*Др. Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ,*
*Старшыня.*



# Паслясло́ўе да Слуцкага збройнага чыну




*Сцяг 1-га Слуцкага палка*

Мы стаім у шыхтах скамянела,
Мы ў адчаі жалобным маўчым,
Мала нас, мала нас уцалела,
І закончыўся збройны наш чын.

Адбіраюць паляккі вінтоўкі,
Нібы долю і волю бяруць
Не старыя бяруць дубальтоўкі
Абдіраюць у нас Беларусь.

Мы паўсталі ад сох і сявенькі
І ад слуцкіх высокіх званіц
Мы паўсталі ад роднай зямелькі,
Мы ўскіпелі з крыштальных крыніц.

Мы паўсталі з апошняю спробай
Жыць ва ўласным парадку зямным,
Надарыць край адвечнай свабодай,
Зберагчы ад чырвонай чумы.

Не хацелі ні пана, ні хама
Над прадзедаўскай шэрай раллёй,
Гаспадарыць жадалі мы самі
І за гэта паўсталі на бой.

Мы паўсталі былі і разбіты,
Бальшавіцкай стаптаны ардой,
Край радзімы крывёю заліты
Пакідалі ляжаць за сабой.

Адступалі з надзеяй святою
Сіл набрацца і зноў ваяваць,
А палякі загадваюць зброю,
Нібы нейкім злачынцам здаваць.

Мы вінтоўкі кідаем у кучу
І маўчым, і маўчым, і маўчым,
Дагарае ў нас гневам кіпучым
Гэты наш незакончаны чын.

Дагарае наш чын тарфавіскам,
Толькі душы, як znічкі, ляцяць.
Ой нябліска той час, ой нябліска,
Як мы зможам і нябыцца паўстаць.

Ды наступіць ён, верым, наступіць,
Хоць самім мо не лёс прычакаць,
У незалежнай, святой Беларусі
Будуць косці ўсё ж нашы ляжаць.

*Станіслаў СУДНІК.*

# "Нават ворагі нашы спрыялі захванню беларускай мовы"



**Доктар тэхнічных навук, прафесар, акадэмік міжнароднай акадэміі навук А. САЛАМОНАЎ.**

## 1. Маленькі ўступ

Гэты артыкул мае складаную гісторыю хаджэнняў па нашых "сродках масавай інфармацыі". Пісаўся ён па дамоўленасці з "Настаўніцкай газетай" яшчэ з пачатку мінулага года. Наменснік яе галоўнага рэдактара Юдо Пётр Віктаравіч сваё слова стрымаў. У выніку матэрыял практычна без змен быў падрыхтаваны да друку. Але тагачасны галоўны рэдактар (Куліці Алег Вячаслававіч) палічыў яго крамолай, доўга трымаў і, урэшце-рэшт, струсіў. Тады я панёс водціск у часопіс "Полымя". Там пісьменнік Сідарэнка Андрэй Міхайлавіч таксама доўга вывучаў напісанае, а потым сказаў: "Калі я надрукую прынесенае Вамі, то галоўны выжане мяне з працы". Пасля роздуму перанёс усё ў газету "Звязда". Там загадчык аддзела Сяргей Шаўцоў пільна прайшоўся па радках, ухваліў і здаў у друк, назваўшы прыкладна, нават, нумар газеты, у якім будзе змешчаны артыкул. Але выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара Міхневіч Міхаіл Васільевіч палічыў, што я ўхваляю ворагаў, (хоць са мною такога ніколі не было) і сказаў: "Не пушчу". За гэты год наступ на беларускую мову павялічыўся. Таму веданне гістарычнай праўды пра стан нашай мовы ў мінулым і адносіны да яе ў пасляваеннай Германіі будзе карысным і для каманды самага прэзідэнта.

## 2. Нялёгкая сутнасць размовы

Зараз вядзецца ўзмоцненая прапаганда быццам бы непазбежнай неабходнасці поўнага далучэння Беларусі да "вялікага рускага народа". Пры гэтым даказваецца, што такім чынам будзе захаваны наш суверэнітэт. Тое ж вынікае і з тэкста артыкула "Навука ці фальсіфікацыя?" (Звязда" ад 06.08.96 г. г.). Гэта ж неаднойчы сцвярджалася працаўнікамі нашай вышэйшай улады. Аднак, у мінулым такія вуніі, саюзы з братэрскімі славянскімі народамі Беларусь ужо мела. Яны пачыналіся з прыгожых слоў а заканчваліся поўным знішчэннем нашай дзяржаўнасці. Аб гэтым і пойдзе размова ў артыкуле.

Гістарычны лёс нашай шматпакутнай Беларусі не прос та складаны. З пэўнага часу ён быў скіраваны на поўнае знішчэнне дзяржаўнасці нашага краю і этнічнай самастойнасці беларускага народа, гэта значыць — на яго асіміляцыю і выкарыстанне ў інтарэсах дзяржаў — захопнікаў. і, як не дзіўна, рабілі тое знішчэнне не якіясці ворагі далёкага замежжа, а свае славянскія браты, суседнія народы — палякі і расейцы. пры тым звонкава ўсё выглядала вельмі прыстойна. Бо любы новы этап наступу на беларускі народ прадстаўляўся быццам бы жаданнем яму лепшага, абаронай ад чагосці і, нават, амаль што ўратаваннем. Пачыналася ўсё тое звычайна з братэрскіх саюзаў. Так палякі пачалі свой наступ таксама з яднання з Беларуссю. У выніку доўгіх перамоваў у 1385 годзе была падпісана спецыяльная ўмова (вунія, якая збліжала Вялікае Княства Літоўскае з Польшчай" (Язэп Найдзюк, Іван Касяк. "Беларусь учора і сёння". Мн., "Навука і тэхніка", 1993 г., стар. 42). Напачатку ўсё было добра. "Паводле гэтай умовы хатняе, унутранае гаспадаранне ў кожным гасударстве заставалася асобнае, асобнае было войска, скарб, асобныя ўрады. Палякі нават не мелі права асядаць у Вялікім Княстве Літоўскім і купляць тут зямлю" (там жа). Саюз хутка быў падмацаваны жаніцьбай вялікага князя Ягайлы ў 1386 годзе з Польскай каралевай Ядзвігай. Аднак паступова з прычын расейскіх ваенных наступаў на Вялікае Княства Літоўскае польскі ўплыў на беларускіх землях павялічыўся, што прывяло ў 1499 годзе да "новых умоў з палякамі", а потым у 1569 — да дадатковай Люблінскай вуніі з Польшчай". Называлі яе вельмі прыгожа: "вольных з вольнымі і роўных з роўнымі". Захоўваліся пакуль што "асобныя ўрады, скарб і войска". Пакідалася права "карыстацца беларускай моваю ў судзе і ўрадах (там жа, стар. 65). Аднак ужо "Польшча і Вялікае Княства становяць адно непадзельнае цэлае, маюць аднаго караля аднолькавыя грошы, пасяляцца можна супольна ў абодвух краях". Толькі тое "непадзельнае цэлае" не аатрымлівалася па прычыне пэўнаай рознасці ў змесце душы польскага і беларускага народаў, іх гістарычных набыткаў, у ўмовах, у склаўшыхся самабытнасцях жыцця і ў рэлігіях. Таму у 1596 (па некаторых крыніцах, напрыклад, вышэй названая "Беларусь учора і сёння" — у 1595 г.) была прынята Берасцейская (Брэсцкая) вунія, прызначаная аб'ядаць каталіцкую і праваслаўную цэркву на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Вядомы дарэвалюцыйны гісторык В. Ю. Ластоўскі ("Кароткая гісторыя Беларусі". Вільня. 1910 г.) называе гэтую дзею "вялікай абдымкай" (стар. 68), бо яна "была зусім нездатна для працы сярод беларусаў, бо не апіралася на нацыянальнае пачуццё народа". Таму ў 1696 (па Я. Найдзюку — у 1697) польскі "Сэйм пастанавіў беларускую мову выкінуць з дзяржаўнага ўжытку" (стар. 99). Аднак і гэтая мера не змагла даканаць беларускую мову. Больш таго "пасля прыняцця вуніяцкай царквой для выканання набажэнстваў той мовы, на якой гаварыў народ, калі пачаў рабіцца ўпор на нацыянальныя здабыткі, вуніяцтва пачало пашырацца на Беларусі і паступова пераўтварацца ў найбольш распаўсюджаную плынь хрысціянства на Беларусі" (В. Ф. Голубеў, У. П. Крук П. А. Лойка "Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?". Мн.. "Народная асвета". 1995 г., стар. 42). Такім чынам саюз з заходнім, самым блізкім славянскім братам, першапачаткова пададзены як "вунія вольных з вольнымі і роўных з роўнымі" звёўся ўрэшце-рэшт да імкнення асіміляваць поўнасцю беларускі наарод праз знішчэнне Богам дадзеных каранёў у выглядзе мовы і самабытнасці. Як вядома, тое зладзейства не адбылося. Але шкода для душы народа ад усіх тых вуній была вялікая.

Заглянем крыху ў гістарычную мінуўшчыну адносін з "усходнім братам". Бо вельмі ўжо яму хацелася "пажаніцца" назаўжды з Беларуссю. Канчатковая мэта ў гэтым памкненні было такой самай як і ў палякаў: зрабіць сваім краем, апалоніць, толькі метады выкарыстоўваліся іншыя — ваенны гвалт. Па-сапраўднаму пачаўся ён яшчэ ў 1500 годзе і цягнуўся амаль што 300 гадоў. І быў страшэнным. Вось што гісторыя піша аб выніках аднаго з перыядаў той бойні, што звязаны з "Невядомай вайной 1654—1667 гадоў" (Генадзь Сагановіч. Мн., "Навука і тэхніка". 1995 г. стар. 130-134).

"На Беларусі ў межах прыкладна яе сучаснай тэрыторыі колькасць насельніцтва зменшылася на 53 працэнты...

Некаторыя гарады, здавалася, абязлюдзелі назаўжды, бо страты жыхароў... перавысілі, напрыклад. 93 працэнты ў Полацку, 94 — у Віцебску, 98 — у Вяжышчах". Лепшыя з захаваўшыхся былі перамешчаны ў Маскоўшчыну, каб працаваць на яе. Так "калі на пачатку XVII стагоддзя ў Магілеве было за 2 тысячы рамеснікаў дык у 1745 г. — толькі 95". Такая "татальная дэканструкцыя змяніла ўсё — ад матэрыяльных умоў жыцця да сацыяльнай структуры насельніцтва ад моўна-культурнай і канфесійнай сітуацыі да этнапсіхікі і нацыянальнага генафонду наогул". "Беларусы сталі народам з непапраўнай, няпоўнай сацыяльнай структурай грамадства", што не магло не перадацца ў наступныя пакаленні, завяршыла той "братэрскі разбой "Вялікая прасветніца" (Кацярына ІІ, якая ў сваім маніфесце ад 13.04.1793 г. (пасля другога падзелу "Польшчы" — аўт.) крывадушна пісала: "Што ўсё тое, рабілася дзеля карысці беларускага народа", каб даць яму магчымасць "дотигнуть до совокупления под единою державою с единоплеменным им российским народом и соделаться соучастниками блаженства, славы и величия которыми нынче монархия наша, в мире процветая, наслаждается". Відаць дзеля таго "блаженства, совокупления и наслаждения" ў 1839 годзе царскім Указам "забаранялася ўжываць беларускую мову ў цэрквах і касцёлах. бо дагэтуль казанне для простага народа заўжды вялося па-беларуску" (Ю. В. Ластоўскі. "Кароткая гісторыя Беларусі". Вільня. 1940 г., стар. 97). Да гэтага ў 1836 годзе Мікалай І выдаў Указ "аб увядзенні выкладання на рускай мове ва ўсіх навучальных установах Беларусі". Канчаткова беларуская мова ставілася афіцыйна ў якасці забароненай царскім Указам 1867 года аб забароне беларускага друку. Стварэннем "Северо-Западного края" Беларусь сціралася з карты Еўропы. Злачынны наступ русіфікацыі ў Беларусі завяршыла савецкая сістэма. Яна нават усёй сваёй сутнасцю вынішчала карані беларускасці. І зноў тут рашучая роля належала "русскаму брату", прадстаўнікі якога напраўляліся ў Беларусь кіраваць нашым народам так. каб знішчыць і дух Беларускі.

Вось такімі былі вынікі братэрскіх саюзаў Беларусі з суседнімі славянскімі народамі.

**(Працяг у наступным нумары)**

# “Добры дзень!”

## або як вітаюцца беларусы пры сустрэчы



Язэп Палубятка

Вітанне пры сустрэчы — гэта знак праяўлення павагі. Прывітаннем пачынаецца дзень, сустрэча, размова. Калі вы ўважлівыя, то ведаеце, што існуе вялікая колькасць форм вітання.

Выпрацавана пэўная сістэма зваротаў ветлівасці пры сустрэчы і размове ў беларусаў. Перш за ўсё заўважаецца, што ў час сустрэчы і вітання людзі глядзяць адзін аднаму ў вочы, прыветліва ўсміхаюцца, а сваякі ці добрыя знаёмыя, сябры яшчэ абдымаюцца і цалуюцца.

Вітаюцца беларусы не зусім у адпаведнасці з часам сутак. Такое вітанне, як “Добрай раніцы”, штучнае, кальнаванае ў апошні час. Прыродны ж беларус ужо ў чатыры гадзіны раніцы кажа: “Добры дзень” або “Дзень добры”. Вечарам беларус кажа: “Добры вечар” або “Вечар добры”. Адсутнасць формы “Раніцы добрай” яшчэ раз пацвярджае штучнасць гэтага вітання, хаця асабліва ў гарадах вітанне “Добрае раніцы” ці “Добрай раніцы” атрымала зараз пэўнае распаўсюджанне.

Іншы раз можна пачуць больш пашыраны варыянт вітання: “Добры вечар у хату!”, “Добры вечар шаноўнаму спадарству!”, “Добры дзень, сястрычка, браток” і г. д. Тут назіраецца мэтанакіраванасць, зварот да канкрэтнай асобы ці аўдыторыі.

Але вітанні бываюць як са знаёмымі, так і незнаёмымі. Са знаёмымі ўсе адчуваюць сябе больш вольна, таму і вітанні больш вольныя. Людзі ў незнаёмай кампаніі паводзяць сябе больш стрымана і ні ў якім разе не дапускаюць развязнасці, вядома, калі чалавек выхаваны. Пры сустрэчы блізкія знаёмыя могуць сказаць адзін другому пры поціску рук “Прывітанне!”

Акрамя самога прывітання для выказвання належнай павагі да спатканца ці паступовага пераходу да дзелавой гутаркі звычайна задаюцца трафарэтныя пытанні ці выказваюцца нейкія пажаданні.

Напрыклад. “Вітаю вас!” — такі прывітальны зварот да каго-небудзь са знаёмых пры сустрэчы або выказванні віншавання ў сувязі з якім-небудзь урачыстым выпадкам. Тут жа можа быць дадатак.

Але вось вы запрошаны на вяселле, дзень нараджэння, на хрысціны. І тут склаўся пэўны звычай сустрэчы. Пры ўваходзе ў хату (а можа вас сустрэнуць і на падворку) вітаюцца, і госці дабаўляюць “Віншую (віншуем) Вас” або “Сардэчна віншуем Вас”, далей выказваецца сэнс віншавання.

Калі сустракаюцца сваякі ці добрыя знаёмыя, якія даўно не бачыліся, абавязкова да вітання дадаюць “Як жывеце?” або “Як маецеся?”

Але, вось вы сустрэліся са знаёмымі, якіх даўно не бачылі, на прыкладзе, з-за хваробы, то пасля вітання дадаеце: “Як Ваша здароўе?”, “Як Вы сябе адчуваеце?”

Тут нагадаены толькі некаторыя звароты вітання пры сустрэчы. аднак яшчэ трэба ведаць іншыя моманты. Вітанне не павінна быць шумным, нястрыманым. Нават лепшаму сябру няветліва махаць, рукой, шапкай і крычаць здалёку: “Прывітанне, старына!” Не варта вітацца ідучы адзін аднаму насустрач за некалькі крокаў. Дык будзем ветлівымі і правільна вітацца на роднай мове пры сустрэчы!

Я. ПАЛУБЯТКА.

# “З богам!”

## або як развітваюцца беларусы

Якой бы працяглай не была наша сустрэча з роднымі, блізкімі, сябрамі ці каханымі наступае момант растання. Развітанне, як і прывітанне, адзін з важных элементаў чалавечай культуры зносін. У кожнага народа гэты звычай праяўляецца па-рознаму. ёсць свае адметнасці і ў беларусаў.

У наш дынамічны, вірлівы ды камунікабельны час за адзін дзень можа адбыцца бясконцае мноства сустрэч і растанняў. Таму пытанне развітання вельмі важнае. Як мы праводзім чалавека, ды якія словы скажам яму ў дарогу, з якімі пажаданнямі пацiснем госцю напаследак руку, будуць меркаваць аб нас саміх і адпаведна ставіцца да нас.

Таму давайце нагадаем самі сабе, як звычайна развітваюцца ветлівыя і гасцінныя бедарусы. Варта заўважыць, што ступень роднасці, знаёмства, а яшчэ болей прыхільнасці значна ўплывае на падбор слоў для вызначэння пачуццяў пры развітанні.

Сваім сябрам і знаёмым мы звыкла кажам здаўна вядомыя словы — пажаданні: “Бывай!” Іх можна гаварыць і той хто адыходзіць і той хто праводзіць. Як варыянт, існуе “Бывайце!”

Развітальныя пажаданні пры адыходзе з дому сяброў, знаёмых і ўвогуле пры развітанні людзей можа гучаць так: “Заставайцеся здаровы!, “Заставайцеся з Богам!”, “Будзем (бывайце) здаровы!” або “Добрага вам здароўя!”

Развітальная пажаданне гаспадара таму, хто адыходзіць (ад’язджае) заўжды гучыць так: “Усяго добрага (найлепшага)!”, “Шчасліва!”, “У добры шлях1”, “Ідзіце здаровы!” ці проста “З Богам!”.

Калі хтосці хоча выказаць жаданне пабачыцца зноў, то на развітанне кажуць “Да скорай (хуткай) сустрэчы!” “Да (новага) спаткання!” “Да пабачэння!”, “Да сустрэчы!”

Тым, хто накіроўваецца ў далёкую дарогу або ад’язджае на доўгі час, кажуць “Шчаслівай дорогі”, “Шчасліва вярнуцца!”, “Хуткага вяртання!”, “Ездзьце здаровы!” (“Ідзіце здаровы”)

У гэтых выказваннях адчуваецца надзея на хуткую сустрэчу зноў.

Не павінны мы забываць развітальныя пажаданні пры адыходзе з дому знаёмых позна вечарам. Звычайна зычаць ім “Спакойнай (добрай) ночы!” або проста “Дабранач!”

Пасля наведання хворага чалавека пры развітанні жадаюць “Скорай папраўкі!” або кажуць “Хутчэй папраўляйцеся!”

Як бачна, нашы продкі выпрацавалі значную колькасць цікавых выразаў, каб выказаць свае шчырыя, а можа і не надта, пачуцці пры развітанні.

Шкада, што многія з гэтых добрых слоў выйшлі са штодзённага ўжытку. Хочацца, каб яны ўвайшлі ў наш паўсядзённа побыт. Хай паміж намі жыве шчырасць і паважлівасць як пры сустрэчы, так і пры развітанні.

Я. ПАЛУБЯТКА.

Генадзь Тумаш

# ЛЯЦІ ПАГОНЯЮ АХОВЫ...

У старжытных храмах мовы
Вякуе наш вялікі край.
Ніводнае святой будовы
На глум, на здзек не аддавай.

Ад векавання залатога
Спаміж народаў і краін
Не пакідалі нам нічога,
Апроч слядоў нямых руін.

І толькі мовы, мовы роднай
Не звявалі чужакі,
Святая сіла нашых продкаў
Край бараніла праз вякі.

Спрадвечнай Божае цвярдыні
На глум, на здзек не аддалі,
Жыла забраная краіна
Ў крэвым слове на зямлі.

Яно нашчадкаў гартавала
Нязломнай верай змагароў,
Што сцяг дзяржавы зруйнаванай
Узняты горда будзе зноў.

Гвалтоўна ўсё чужак іначыў,
Радзіму рваў і сек дзяльбой,
А мова наша землі нашы
Законнна значыла сабой.

Святыняй прарастала Божай
У сэрцы вольным, у грудзях.
Заўжды была непераможнай,
У прыйсце таравала шлях.

І вось дзяржаўнай мова стала,
Квітнець бы ёй і множыць плён,
Ды погань край апанавала,
Здае рэспубліку ў палон.

Здае цябе імперцаў зграя,
Радзіму прадаюць чыны.
Краіна храмаў не змаўкае,
Галосяць на ўвесь свет званы.

Ляці Пагоняю аховы,
Выратавання шлях адзін,
Гані арду ад храмаў мовы,
Каб не было нямых руін.



# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Бор. Барана. Абарона.

Бор — спелы хваёвы лес, які расце пераважна на пясчаных, супясчаных і лёгкасуглiністых глебах. Бары пашыраны практычна па ўсёй Беларусі.

Дрэвастоі ў барах часам з дамешкам бярозы, месцамі елкі. Бары бываюць беламошныя, лішайнікавыя, зеленамошныя, верасовыя, брусьнічныя, імшыстыя, чарнічныя, сухія, свежыя, вільготныя.



Бор (участак хваёвага лесу)

Барана — земляробчая прылада для рыхлення, баранавання глебы. Бораны адрозніваліпа тыпах: вяршаліна, смык, плеценая (вязаная) і брусковая (рамная). Бораны былі драўляныя з драўлянымі зубамі, драўляныя з жалезнымі зубамі, зараз ужываюцца ў асноўным рамныя жалезныя бораны з жалезнымі зубамі.

Што ж агульнага паміж гэтымі такімі рознымі аб’ектамі. Агульная карэнная прадметная аснова.

Слова “бор”, як і слова “лес”, “гай” — слова аднаскладовае і вельмі старажытнае. Першапачаткова яно азначала проста лес. Узнікла слова на мяжы лесу і стэпу. Лес для нашых прашчураў быў домам, кармільцам і абаронцам. Лес бараніў ад холаду, голаду і ворагаў. “Абараніцца абазначала напачатку “схавацца ў бары”. Таму словы “абарона”, “барацьба” ўзнiклі на аснове слова “бор”. Шырока вядомае ў старжытнасці імя Рацібор, якое паходзіць ад словаў “раць”, “ратнік”, і “бор”. Ад слова “бор” паходзіць і словы “бервяно”, “бярвенне”.

Бор

Барана на пачатку, калі яна была вершалінная тыпу ці простай сукаватнай, і ўяўляла сабой кавалак дрэва з сукамі, які цягнулі за тонкі канец і рыхлілі сукамі зямлю магла атрымаць сваю назву ад тога ж слова “бор” ці “баравіна” што абазначала проста лясіну, палена, бервяно.

Пазней, калі баранаванне глебы набыло у цыкле сельскагаспадларчых работаў дадатковы сэнс, а, менавіта баранай пачалі прысыпаць зерне, каб абараніць яго ад птушак, слова “абарона” лёгка звязалася са словам “барана”. Шырока вядомая беларуская прымаўка: “Хай Бог крые і бароніць” у жартоўнай форме загучала: “Хай Бог крые, барануе”.

Вельмі блізкае да слова “барана” слова “баран”. Разам з тым “баран” нічога агульнага з “баранай” і “борам” не мае. Слова “барана” таксама надзвычай старажытнае, але больш позняе чым “бор”. На санскрыце “баран” гучыць як “урана”, на курдскай — як “бэран”.

Такім чынам , менавіта слова “бор” дало пачатак усяму гнязду абаронnай лексікі.

Станіслаў СУДНІК.



Барана

## Бярэмя.

Бярэмя — гэта мера аб’ёму розных рэчаў і мае велічыню, што адпавядае мажлівасці чалавека ўзяць за адзін раз голымі рукамі.

Бярэмямі можна мераць дровы. Прынесці бярэмца дроў — гэта прынесці столькі колькі можна пакласці на адну руку і абхапіць другой.

Можа быць бярэмя сена. Праўда сена часцей мераюць ахапкамі. Таксама, колькі абхопіш.

Цікава структура слова “бярэмя”. Па сутнасці яно складаецца з двух словаў “браць”. Было ў старабеларускай мове такое слова “яць”, што абазначала “браць”. Ад яго пайшлі словы: “узяць”, “уцяць”, “выцяць”, “адцяць” і г. д.

Спражэнне гэтага слова ў першай асобе дае: я “ем” — я бяру. Адгэтуль расейска “приемлю” і “не приемлю”, беларуская “прыемна”, “узаемна” і г. д.

Само слова “браць” таксама мае ў сваёй аснове “яць”, але яно трансфармавался некалькі інакш.

І вось у слове “бярэмя” сышліся словы “бяру” і “ем” (таксама “бяру”). Два разы “бяру” абазначае, што бяру, менавіта дзвюма рукамі. Відавочна, што некалі было даволі істотна, што і якой рукой робіцца.

Станіслаў СУДНІК.

Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

Рэдакцыйная рада: Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.

Наклад 2000 асобнікаў. Замова № 2863